ЯК АДЗНАЧЫМ




ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

НАЦЫЯ, ЯКАЯ



ПАБУДАВАНАЯ НА ВАЙНЕ

СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

14.06.12-20.06.12 г.


# ХТО СПРАБУЕ "НАХІЛІЦЬ" ЛУКАШЭНКУ

**Амбасадар Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў агучыў першачарговыя інтарэсы Крамля ў Беларусі.**

## І РАПТАМ — СУМНЫ ВАРЫЯНТ

У інтэрв'ю агенцтву "Інтэрфакс" дыпламат, перадусім, патлумачыў неабходнасць прыняцця Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы і найхутчэйшага ўвядзення адзінай валюты.

— Другога крызісу беларуская сістэма не перажыве, — так Сурыкаў аргументаваў неабходнасць пераходу на расійскі рубель. — І могуць узнікнуць складанасці ўнутрыпалітычнага характару.

Цікава, што пару тыдняў таму прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін жменямі сыпаў кампліменты на адрас беларускага ўрада, які нармалізаваў сітуацыю ў эканоміцы і прарочыў маштабныя вынікі ў найбліжэйшай будучыні. І раптам расійскі амбасадар кажа пра зусім сумны варыянт...

Таксама Сурыкаў намякнуў на верагодныя праблемы з чацвёртым траншам крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС з прычыны невыканання ўмоў, што тычацца прыватызацыі і структурных рэформ у эканоміцы. Праз гэта Беларусь рызыкуе "стаць зусім неканкурэнтнай і страціць нават наш, расійскі рынак".

— Ніхто з інвестараў працаваць з дзяржавай не будзе, — пераконваў дыпламат. — Навошта гэта патрэбна — укладваць грошы ў дзяржаўную маёмасць?!



*Лягчэй за ўсё маляваць мішэні ў Еўрасаюз…*

> "Адначасова было зноў агучана расійскае стаўленне, мякка кажучы, без асаблівай сімпатыі да праекта беларуска-кітайскага аўтамабіля, які павінен неўзабаве стартаваць".

## ТРАНСЛІРАВАЛАСЯ ПАЗІЦЫЯ КРАМЛЯ

Гэтыя словы выглядаюць своеасаблівым адказам Аляксандру Лукашэнку, які нядаўна ў чарговы раз агучыў сваю "мадэль прыватызацыі": хай інвестары прыходзяць, спачатку пакажуць добрыя вынікі на нейкім прадпрыемстве, а потым мы, магчыма, ім нешта прададзім.

Асабліва расійскі бок турбуецца з прычыны таго, што застапарыўся працэс аб'яднання МАЗа і КамАЗа. Таму Сурыкаў палохае тым, што абодва прадпрыемствы прайграюць канкурэнцыю кітайскім кампаніям. Адначасова было зноў агучана расійскае стаўленне, мякка кажучы, без асаблівай сімпатыі да праекта беларуска-кітайскага аўтамабіля, які павінен неўзабаве стартаваць.

Відавочна, што амбасадар выказваў не ўласны пункт гледжання, а пазіцыю Крамля. Па заявах Сурыкава можна вызначыць расійскія прыярытэты ў Беларусі на кароткатэрміновую перспектыву.

Такім чынам, зноў паўстае тэма адзінай валюты. Нагадаем, што яна павінна была быць уведзена яшчэ ў 2005 годзе (паводле дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, падпісанай у 1999-м).

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# ПРЭМ'ЕР УКРАІНЫ ВЫЙГРАЎ ПІВА

**Азараў праявіў сябе годна перад шведскімі фанатамі. Тыя аддзячылі яму.**

Нядаўні матч зборных Украіны і Швецыі (2:1) на Еўра-2012 Мікалай Азараў глядзеў не ў прэзідэнцкай ложы або пяцізоркавым рэстаране, а ў фан-зоне, з півам у пластыкавым куфлі, паведамляе gazeta.ru.

Не адшукаўшы вольнага месца «сярод сваіх», Азараў падсеў за «шведскі столік». Пагаварыўшы пра надвор'е і выпіўшы піва, мужчыны зрабілі так, як і належыць мужчынам, — пачалі хваліць свае каманды. Зразумела, усё гэта прывяло да таго, што бакі паспрачаліся на піва. Швед паставіў на сваіх, а Азараў — на Шаўчэнку і К.

Аднак пасля прапушчанага мяча Азараву трэба было спешна вяртацца на працу. Але шведскага заўзятара Олу С'ёстэда нейкае там міністэрства не магло спыніць. На наступны дзень пасля перамогі ўкраінцаў швед прыехаў да будынка дзяржустановы і прынёс Азараву праіграна піва.

«Я хачу павіншаваць вас з вельмі добрай гульнёй шведскай каманды», — сказаў Азараў на сустрэчы з С'ёстэдам у будынку ўкраінскага ўрада.

# ЯК НА ШКЛОЎШЧЫНЕ ЗМАГАЮЦЦА З П’ЯНСТВАМ

Днямі Шклоўскі райвыканкам вырашыў прынцыпова змагацца з алкагалізмам.

## ПАКРЫСЕ ДЭГРАДЗІРУЕМ

Прычына для гэтага больш чым істотная. Па выніках мінулага года, малая радзіма А.Лукашэнкі — Шклоўскі раён — зусім недалікатна лідзіруе на Магілёўшчыне па колькасці спажывання “зялёнай атруты” на душу насельніцтва. Пры гэтым тэмп і аб’ём спажывання алкаголю, як адзначалася на пасяджэнні райвыканкама, у бягучым годзе не зніжаюцца.

14 літраў алкаголю прыпадае на кожнага жыхара раёна. Гэта ў два разы больш, чым патрабуецца для незваротнай дэградацыі асобы. Ну і, адпаведна, правапарушэнняў з боку падпітых грамадзян удвая больш, чым сярод цвярозых. А вось у Ардоцкім сельсавеце так і ўсе 100 адсоткаў здарэнняў і злачынстваў на рахунку падпітых жыхароў.

## І ВЫЗНАЧЫЦЬ “НЕНАДЗЕЙНЫХ”

Таму Шклоўскі райвыканкам прыняў шэраг антыалкагольных мер. У выніку вырашана:

— увесці ў раёне паняцце “дзень цвярозасці” з забаронай продажу на адпаведнай тэрыторыі алкагольных напояў;

— забараніць продаж і рэалізацыю алкагольных напояў у перадсвяточныя, святочныя, пятнічныя і выхадныя дні на тэрыторыі аграгарадкоў Гарадзішча, Фашчаўка, Славені, Стараселле, Гавяды і ў кафэ “Стары горад” у самім Шклове;

— стварыць “зону цвярозасці” на тэрыторыі Гарадзішчанскага сельсавета і да 10 ліпеня забараніць тут продаж пладова-ягадных він і піва;

— забараніць рэалізацыю алкагольных напояў асобным грамадзянам, што знаходзяцца на ўліку як “ненадзейныя”.

Цікава, хто і як будзе вызначаць гэтых “ненадзейных” і якой павінна быць ступень “ненадзейнасці” для таго, каб табе не прадалі ў краме, напрыклад, бутэльку беленькай?

## У “ШАКАЛАДЗЕ” ТОЛЬКІ САМАГОНШЧЫКІ І “БУТЛЕГЕРЫ”

“Тут і цяпер” папрасіла пракаментаваць гэтыя меры барацьбы з п’янствам колішняга дырэктара адной з тутэйшых гаспадарак кандыдата эканамічных навук Пятра Мігурскага:

— Гэтыя так званыя меры барацьбы могуць выклікаць толькі саркастычную ўсмешку ў падпітых землякоў, а тым больш у цвярозых. Паколькі ніякай альтэрнатывы “дням цвярозасці” няма, то гэтыя дні зусім нядрэнна “падымаюць” (як гэта гучыць на мове цяперашняй моладзі) мясцовых “бутлегераў” і самагоншчыкаў. Вось і ўвесь уплыў на барацьбу з п’янствам. У такія дні катастрафічна не далічваюцца грашовых сродкаў дзяржаўныя крамы, а значыць, і бюджэт. На сумнае фінансавае становішча райспажыўсаюза аказвае адмоўны ўплыў нават і адзін “дзень цвярозасці», што тут ужо казаць пра іх рэгулярнасць… Забарона на продаж алкаголю ў выхадныя і святочныя дні таксама проста перакладвае нагрузку на чалавечы арганізм з вольнага дня на працоўны, што, зразумела ж, адбіваецца на плённасці працы не ў лепшы бок і стварае базу для вытворчага траўматызму.

## НЕ ТАКІЯ ЎЖО МЫ І АЛКАШЫ

Яшчэ больш абсурдным падаецца забарона на рэалізацыю пладова-ягадных і слабаалкагольных напояў у так званых зонах цвярозасці, лічыць Мігурскі. Бо рэалізоўваць тут і, адпаведна, ужываць у гэтай зоне іншыя напоі (гарэлку, каньякі, шампанскае) можна. А гэта значыць, што неўзабаве “зона цвярозасці” міжвольна ператворыцца ў “зону п’янства”. На вытворчасць тых самых пладова-ягадных напояў працуюць цэлыя прадпрыемствы, і бюджэты многіх раёнаў “прывязаны” да іх рэалізацыі. А тут барацьба з чым?!. Ну давайце закрыем гэтыя прадпрыемствы, не даўшы ім ніякай альтэрнатывы, а раёнам зацвердзім іншыя бюджэты, паколькі звузім падатковую базу. Райспажыўсаюзы і гандаль пазбавім “жывой капейчыны”. Не так трэба змагацца з “зялёным змеем”. Не так…



*Алкаголь не перамагчы фармалізмам*

Між тым, як лічыцца, беларусы не такія ўжо і алкашы, каб змагацца з п’янствам “шклоўскімі” метадамі. Больш уважліва і крытычна варта было б паставіцца да таго, што, забяспечваючы нізкі ўзровень жыцця сваім “падданым”, улада правакуе людзей на асацыяльныя паводзіны. Рэальныя заробкі такія, што з іх можна хіба што задаволіць самыя прымітыўныя патрэбы ў баўленні вольнага часу і спажыванні сацыяльна-культурных даброт. Канечне, перабудоўваць жыццё ў напрамку цывілізацыі куды складаней, чым распрацоўваць так званыя меры барацьбы.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# “СМАЖЫЦЕ, НЕ АБЛЯПАЙЦЕСЯ!”

## Прадпрымальніца разграміла свой бар ад адчаю

Бар “Паб-хаўс” на вуліцы Гогаля ў Брэсце за два дні ператварыўся ў напаўразбураны хлеў. Прычым зрабіла гэта гаспадыня названай установы, паведамляе virtual.brest.by.

Да нядаўняга часу ў Брэсце працаваў бар “Паб-хаўс”. Гэта была адна з нешматлікіх чыста “піўных” устаноў у Брэсце, дзе можна было папіць піва ў кампаніі і паразмаўляць з сябрамі.

Яшчэ 9 чэрвеня ўстанова была адкрыта для ўсіх жадаючых. І вось сёння берасцейцы звярнулі ўвагу на тое, што будынак бара практычна знішчаны.

Вядома, можна было б падумаць, што яго зносяць, але гэты аб’ект нерухомасці проста разграмілі. Прычым зрабіла гэта сама гаспадыня.

З 2005 года дзве фірмы ніяк не маглі падзяліць гэты будынак: судзіліся адна з адной, мянялі назву, і вось зусім нядаўна ўласнік, паводле рашэння суда, павінен быў змяніцца канчаткова. А былы ўладальнік вырашыў такім чынам адпомсціць новаму. У будынак былі ўкладзены вялікія грошы, і аддаваць усё гэта новаму ўласніку былы проста не захацеў.

Суд узяў бок новага ўладальніка. І тады, перш чым перадаць будынак, гаспадыня адважылася на акцыю вандалізму ў дачыненні да ўласнай маёмасці.

Усё адбылося літаральна за апошнія два дні, будынак бара цалкам прыйшоў у заняпад, пра аднаўленне гаворкі нават не ідзе — трэба ўсё зносіць і будаваць наноў. Ці захоча рабіць гэта новы ўласнік, пакуль што пад пытаннем. Аднак ён ужо звярнуўся ў міліцыю з заявай. Не зусім зразумела, куды новы гаспадар глядзеў, калі будынак разбуралі сярод белага дня.

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ХТО СПРАБУЕ "НАХІЛІЦЬ" ЛУКАШЭНКУ

## І ЎСЁ РОЎНА АДЗІНАЯ ВАЛЮТА

Аднак Лукашэнка пасля прыходу да ўлады Пуціна пачаў марудзіць з гэтай справай, а потым і наогул адмовіўся пераходзіць на расійскі рубель. Колькі гадоў Крэмль не надта пераймаўся з гэтай нагоды, але апошнім часам настойліва прапаноўвае вярнуцца да тэмы аб'яднання фінансавых сістэм. Інтарэс Расіі палягае ў тым, каб жорстка прывязаць да сябе Беларусь, пазбавіўшы яе нацыянальнай валюты. Па аналагічнай схеме разгортваецца і гісторыя з Канстытуцыйным актам Саюзнай дзяржавы, які нібыта ўжо быў пахаваны назаўжды.

Прыватызацыя смачных кавалкаў дзяржаўнай маёмасці, абяцаная Маскве шмат гадоў назад, праўда, за выключэннем "Белтрансгазу", паказвае, што Мінск свае абавязацельствы не выконвае. Варта чакаць, што расіяне будуць узмацняць націск, каб дамагчыся продажу ім нафтаперапрацоўчых заводаў, МАЗа, "Азоту" ды шэрагу іншых прадпрыемстваў.

Атрымліваецца, што Крэмль, падносячы адной рукой падарункі Лукашэнку ў выглядзе танных нафты і газу, другой імкнецца яго мякка "нахіліць".

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

### А ТЫМ ЧАСАМ

**Нягледзячы на даволі песімістычныя прагнозы расійскага пасла наконт чарговага, чацвёртага, траншу крэдыту ЕўрАзЭс, Беларусь, як сцвярджае БелТА, на яго вельмі разлічвае.**

Ва ўсякім выпадку, пра гэта гаварыў на сустрэчы з журналістамі міністр эканомікі Мікалай Снапкоў. Адказваючы на пытанне аб перамовах па выдзяленні чацвёртага траншу крэдыту з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭс, міністр эканомікі Мікалай Снапкоў адзначыў, што гэтыя перамовы не заканчваліся і работа вядзецца пастаянна. "Эксперты пастаянна ацэньваюць тую матрыцу, якая ў нас адпрацавана на ўвесь транш", — нагадаў ён.

Як паведамлялася, Савет Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС 4 чэрвеня 2011 года адобрыў выдзяленне Беларусі ў 2011—2013 гадах фінансавага крэдыту ў аб'ёме 3 млрд долараў. Еўразійскі банк развіцця ажыццявіў у мінулым годзе перавод Беларусі двух траншаў крэдыту — на 800 млн і 440 млн долараў. Згодна з графікам, сёлета Беларусь павінна атрымаць два траншы па 440 млн долараў.

# ЗАРОБКІ ЧЫНОЎНІКАЎ – ПЛЮС 45%

## Пастановай Мінпрацы і сацабароны ад канца мая заднім чыслом (з 1 мая) службовыя аклады начальнікаў з дзяржапарату за адзін раз павялічаны да 45%, піша UDF.BY.

*"Толькі вось істотнае павышэнне заробкаў чыноўнікаў, уключаючы сілавікоў, чамусьці не атрымала шырокай агалоскі. Дзяржаўныя СМІ не знайшлі часу шырока асвятліць дадзены факт на сваіх старонках і ў эфіры. Відавочна, гэта зроблена свядома, каб лішні раз не раздражняць усякіх там бюджэтнікаў, пенсіянераў, інвалідаў, студэнтаў і іншых, якія абгрунтавана незадаволены памерамі сваіх даходаў"*, — піша блогер **d-zholik**.




*…І да кагосьці дабягаюць*

Між тым для незадаволенасці шырокіх мас ёсць усе падставы.

Пастановай Савета Міністраў № 410 «Аб устанаўленні памеру тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый» ад 4 мая 2012 года па ўзгадненні з прэзідэнтам з 1 мая павышана тарыфная стаўка першага разраду з Br200 тыс. да Br210 тыс. Адпаведна, зарплаты беларускіх бюджэтнікаў выраслі ў сярэднім усяго на 5%.

З таго ж 1 мая быў праведзены пераразлік мінімальных працоўных пенсій, надбавак і павышэнняў да іх, даплат пенсіянерам ва ўзросце старэй 75 гадоў, сацыяльных пенсій. Павышэнне склала ўсё тыя ж 5%.

Адказныя таварышы з Саўміна і профільных міністэрстваў абгрунтоўваюць такі нізкі працэнт росту тым, што ўрад прымае рашэнні аб іх павышэнні, "зыходзячы з існуючай эканамічнай сітуацыі і магчымасцей". І Аляксандр Лукашэнка сам асабіста неаднаразова заяўляў, што ў дзяржавы проста няма грошай для істотнага павышэння даходаў насельніцтва.

І сапраўды, для насельніцтва ў дзяржавы знайшліся існыя грошы. Вось толькі для дзяржаўных начальнікаў у той жа дзяржавы грошай чамусьці знайшлося з лішкам, каб за адзін раз падняць ім аклады да 45%.

Зрэшты, як піша d-zholik, нават тут улада ўмудрылася «абдзяліць»: гэтак істотна выраслі аклады толькі ў начальнікаў (аддзелаў, упраўленняў, галоўных упраўленняў, дэпартаментаў, намеснікаў і першых намеснікаў кіраўнікоў міністэрстваў, камітэтаў, арганізацый і г.д.), у астатніх жа дзяржаўных служачых службовыя аклады выраслі крыху больш чым на 20%. І гэта пры тым, што ў дзяржначальнікаў усіх масцей істотна выраслі і так высокія аклады, а ў іх падначаленых ледзь падраслі нізкія.

Аб памеры павышэння заробкаў дзяржначальнікаў, як і аб іх узроўні ў цэлым, можна меркаваць максімум да ўзроўню першага намесніка кіраўніка міністэрства, камітэта і г.д. Заробкі ж міністраў, старшыняў рэспубліканскіх камітэтаў, абл-і райвыканкамаў, высокіх службовых асоб, суддзяў засакрэчаны. Значыць, ёсць, што хаваць ад народа. Але няцяжка здагадацца, што ўзровень павышэння аплаты ўсіх гэтых «наймітаў» складае не менш за вядомыя ўжо 45%.

Калі б для беларускай улады ўсе людзі былі б роўныя, то, не пайшоўшы на такое рэзкае павелічэнне заробкаў для войска дзяржначальнікаў, удалося б больш істотна павялічыць даходы астатняй часткі насельніцтва.

Але для народа грошай няма. Грошы ёсць толькі на начальнікаў.

# ЯК БУДЗЕМ АДЗНАЧАЦЬ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ?

3 ліпеня ў Мінску адбудзецца вялікі парад, прымеркаваны да чарговай гадавіны Дня незалежнасці Беларусі.

Чаму беларусы з лёгкасцю прынялі свята, якое не мае да беларускай незалежнасці ніякага гістарычнага дычынення? Ці надоўга затрымаецца гэтае свята ў календары? І чаму беларусы любяць хадзіць на ваенныя парады?

Адказы на гэтыя пытанні шукала **газета "Тут і цяпер"**.






*Back to Савецкі Саюз*

## СФАЛЬСІФІКАВАНАЕ СВЯТА

Палітолаг, **памочнік старшыні руху "За Свабоду!" Алесь Лагвінец** называе 3 ліпеня "штучна створаным святам".

*"Гэта дзень вызвалення Мінска, і ўзводзіць яго ў статус агульнанацыянальнага свята, на мой погляд, вялікая памылка дый проста палітычная гульня,* — выказвае свае думкі Лагвінец. — *Нават міфалагізацыя. Паколькі ёсць іншыя дні, якія значна лепш пасуюць да святкавання Дня незалежнасці Беларусі. Напрыклад, 25 сакавіка. У гэты дзень у 1918 годзе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла Трэцюю Статутную Грамату, якая абвясціла Беларусь незалежнай краінай. Альбо 27 ліпеня — дзень, калі была прынята дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце".*

Гісторыкі таксама не раз падкрэслівалі, што 3 ліпеня – несапраўднае свята.

*"Тое, што афіцыйныя ўлады вырашылі перанесці Дзень Незалежнасці, гэта якраз укладваецца ў тую ідэалагічную, прапагандысцкую ідэю, што ў нас гісторыя Беларусі пачынаецца з Вялікай Айчыннай вайны і толькі,* — казаў некалькі гадоў таму гісторык Анатоль Грыцкевіч.

**ДА ВЕДАМА**

Раней 3 ліпеня было Днём вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама Днём Мінска, бо менавіта сталіца была вызвалена ў гэты дзень у 1944 годзе. З гэтай нагоды 3 ліпеня 1961 года ў Мінску каля манумента Перамогі быў запалены вечны агонь.

З 1991 па 1996 год галоўнае дзяржаўнае свята адзначалася 27 ліпеня, у дзень прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце. Рашэнне аб святкаванні Дня незалежнасці 3 ліпеня было прынята ў 1996 годзе падчас рэспубліканскага рэферэндуму.

*— Зразумела, што гэта штучнае свята, якое патрэбна ўладзе для таго, каб яшчэ больш ідэалагічна ўздзейнічаць на людзей, у тым ліку на моладзь. І проста лішняя нагода для таго, каб паказаць, што яны стаяць ва ўладзе і быццам бы з народам, і такое ідэалагічнае адзінства, якое калісьці абвяшчалася ў савецкі час. Усё гэта вельмі нагадвае былую савецкую прапаганду".*

> «...А 3 ліпеня ўспрымаецца беларусамі проста як дзень адпачынку, калі можна не ісці на працу».

**Тады чаму беларусы з такой лёгкасцю ўспрынялі афіцыйнае свята?**

*"Беларусы з лёгкасцю не пагаджаліся. Я думаю, што ім навязалі гэтае свята,* — працягвае тэму Алесь Лагвінец. — *Таму што ніводнае галасаванне, якое праходзіла за гады праўлення Лукашэнкі, не адбывалася ў роўных і справядлівых умовах. І таму я перакананы, што рэферэндумы і 1995, і 1996 года былі сфальсіфікаваны.*

*А калі разважаць на тэму, чаму беларусы прынялі гэтае свята, то гэта ўжо пытанне да палітычнай мабілізацыі нашага грамадства. Слабая гістарычная памяць — адзін з вынікаў доўгатэрміновай і часткова паспяховай палітыкі русіфікацыі, калі людзі атаясамліваюць гісторыю Беларусі толькі з гісторыяй савецкай Беларусі. І Лукашэнка, можна сказаць, як верны грамадзянін Савецкага Саюза, хоча атрымаць максімальную карысць ад ідэалагічных міфалагем, створаных у савецкія часы, але ў той жа час дыстанцыравацца ад негатыўных з'яў, што былі ў Савецкім Саюзе".*

## ДАДАТКОВЫ ВЫХАДНЫ

Не сакрэт, што некаторыя беларусы лічаць 3 ліпеня толькі дадатковым выхадным днём.

*"Мне падаецца, што нашмат больш сур'ёзна ўспрымаецца свята, якое не прызнаецца сённяшнімі ўладамі, — гэта 25 сакавіка,* — разважае Алесь Лагвінец. — *А 3 ліпеня ўспрымаецца беларусамі проста як дзень адпачынку, калі можна не ісці на працу. Людзі карыстаюцца магчымасцю дадатковага вольнага дня, але я не думаю, каб гэтае свята сапраўды шчыра ўспрымалася людзьмі як агульнанацыянальная з'ява, вартая шырокага святкавання. Я не чуў пра тое, каб 3 ліпеня святкавалі ў сем'ях, вось 25 сакавіка — так, ведаю, што адзначаюць за сямейным сталом і сярод сяброў. Свята 3 ліпеня навязана зверху, і, відаць, яно такім і застанецца. І калі эканамічна рэжым яшчэ будзе захоўваць пэўную стабільнасць, то, магчыма, праз пакаленне зможа выгадаваць сабе даволі вялікае кола адэптаў".*

## А ВЫ ПОЙДЗЕЦЕ НА ПАРАД?

Інфармацыйныя агенцтвы ўжо аб'явілі, што для трэніровак да параду з нагоды Дня незалежнасці роты ганаровай варты закрыюць рух на ўчастку праспекта Машэрава. Так, 15, 18, 20, 25 і 26 чэрвеня з 22.00 да 24.00 будзе закрыты рух усіх

відаў транспарту па праспекце Машэрава на ўчастку ад праспекта Пераможцаў да вуліцы Даўмана. Як паведамляе БелаПАН, "у парадзе прымуць удзел выхаванцы Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча, курсанты Ваеннай акадэміі, ваенна-тэхнічнага факультэта БНТУ, ваеннаслужачыя 120-й гвардзейскай асобнай механізаванай брыгады, 38-й і 103-й асобнай мабільных брыгад, 86-й брыгады сувязі, 56-га, 60-га, 74-га асобных палкоў сувязі, зводнай роты ганаровай варты, а таксама зводны аркестр Узброеных Сіл".

На парадзе будуць прадстаўлены асноўныя ўзоры ўзбраення і ваеннай тэхнікі беларускай арміі. Генеральная рэпетыцыя запланавана на ноч 28 і 30 чэрвеня на скрыжаванні праспектаў Пераможцаў і Машэрава.

Апошнім часам на парадзе збіралася даволі шмат народа. Чаму?

*"Прыходзяць таму, што настойліва запрашаюць,* — тлумачыць Алесь Лагвінец. — *І гэта частка той жа самай савецкай традыцыі. Я думаю, ёсць разнарадкі па прадпрыемствах, і такім чынам людзі мабілізуюца да ўдзелу ў афіцыйных святах".*

## КАЛЯНДАР НА БУДУЧЫНЮ

А калі раптам зменіцца ўлада, ці з'явіцца новы каляндар свят?

Намеснік дырэктара ТАА "Уния.РУ" і дырэктар нядаўна створанага Інстытута беларускай гісторыі і культуры **Віктар Яўмененка** (эканаміст па адукацыі) гаворыць так: *"На мой погляд, нам не хапае свят, якія аб'ядноўваюць народ. Таму я лічу, што 3 ліпеня як Дзень незалежнасці рана ці позна знікне з календара. Але для гэтага зусім неабавязкова, каб змянялася ўлада. Перш за ўсё неабходна, каб у саміх беларусаў змянілася стаўленне да незалежнасці краіны, да гісторыі. Вось калі кожны беларус сядзе за падручнікі і толкам разбярэцца ў сваёй гісторыі, то, мне здаецца, ён сам прыйдзе да высновы, што не 3 ліпеня трэба святкаваць Дзень незалежнасці, а 27 ліпеня. Бо гэта гістарычная, а не прыцягнутая за вушы дата. А 3 ліпеня, на мой погляд, трэба пакінуць у календары як дзень вызвалення Мінска і праводзіць з гэтай нагоды нейкія гарадскія ўрачыстасці, але не больш за тое...".*

**МАРЫНА МІТ**



*Вясёлае свята атрымаецца не ва ўсіх*

# У 16 РАЗОЎ БОЛЬШЫ, ЧЫМ У БЕЛАРУСІ

## А ўкраінцы распрацоўваюць закон з рабочай назвай "Аб свабодзе (!) мірных сходаў", паведамляе euraradio.fm.

*"Беларускія дэпутаты апярэджваюць расійскіх калег гадоў на пяць, таму мы ўвесь час звяртаем увагу расіян на тое, што больш хітрымі і прасунутымі метадамі іх кіраўніцтва будзе ўдасканальваць сваё заканадаўства, закручваючы гайкі",* – так кіраўнік юрыдычнай камісіі БХК **Гары Паганяйла** тлумачыць падабенства беларускага і расійскага законаў, якія ўводзяць пакаранне за недазволеныя мітынгі і пікеты.

Але расіяне скардзяцца на вялізныя штрафы за недазволеныя вулічныя акцыі. За ўдзел у "масавай адначасовай прысутнасці" (па вялікім рахунку, проста праходзіш побач з мітынгоўцамі) – ад 25 да 50 мільёнаў беларускіх рублёў. А калі нехта з дэманстрантаў шкодзіць маёмасць ці наносіць шкоду здароўю чалавека, то кожнага(!) з удзельнікаў акцыі могуць аштрафаваць на 80 мільёнаў!

У беларускіх законах штрафы дагэтуль вымяраюцца не мільёнамі, а базавымі велічынямі. Парушэнне парадку мітынгу

**Атрымліваецца, што максімальны штраф адрозніваецца ў 16 разоў: 80 мільёнаў супраць 5 мільёнаў!**

ў Беларусі "каштуе" да 3 мільёнаў рублёў для ўдзельнікаў і да 4 мільёнаў для арганізатараў. Калі паўторна цягам года – рыхтуй 5 мільёнаў. Да 1 красавіка было амаль у 3 разы менш, бо базавая велічыня была іншая.

Атрымліваецца, што максімальны штраф адрозніваецца ў 16 разоў: 80 мільёнаў супраць 5 мільёнаў! Але не штрафамі адзінымі: і ў Беларусі, і ў Расіі мітынгоўцаў могуць пасадзіць на 15 сутак. Акрамя таго, у законе нашых суседзяў з'явілася незвычайнае пакаранне – абавязковыя работы. Суддзя можа "даць" за недазволеную вулічную акцыю ад 20 да 200 гадзін абавязковых работ.

Аштрафаваць за ўдзел у масавым мерапрыемстве могуць і ў Польшчы. Там штраф складзе не менш як 2000 злотых, ці крыху менш за 5 мільёнаў рублёў. Хуліганіць у Польшчы танней, чым у Расіі? Як бы не так: для асабліва актыўных хуліганаў прадугледжана абмежаванне волі. Але не дазволіць вулічную акцыю ў Польшчы амаль немагчыма.

*"Нацыянальны закон мусіць адпавядаць міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека, а гэтыя стандарты кажуць, што нават калі сход можа быць небяспечным і яго ўдзельнікі могуць паводзіць сябе дрэнна і агрэсіўна, то гэта яшчэ не нагода для таго, каб гэты сход забараніць,* – распавядае "Еўрарадыё" **Славамір Цыбульскі**, палкоўнік польскай паліцыі ў адстаўцы, трэнер Хельсінскага фонду па правах чалавека. – *Каб забараніць вулічную акцыю, улады павінны мець доказы таго, што падчас яе будзе парушацца закон. Але такія сітуацыі вельмі рэдкія: тое, што год ці два назад удзельнікі мерапрыемства ўжо паводзілі сябе дрэнна, доказам не з'яўляецца".*

12 чэрвеня, напярэдадні футбольнага матча "Польшча – Расія", па вуліцах Варшавы пройдзе "Рускі марш": некалькі тысяч заўзятараў зборнай Расіі абяцаюць палякам не менш, як другую Варшаўскую бітву. Да таго ж 4 дні таму расіяне збілі супрацоўнікаў бяспекі стадыёна ва Вроцлаве. Мэрыя польскай сталіцы… дазволіла акцыю. А 17-й гадзіне фаны зборнай Расіі збіраюцца ля чыгуначнай станцыі Warszawa Powisle і ў 17:30 выступаюць да стадыёна.

*"У Польшчы адмысловы дазвол патрэбен толькі тады, калі ўдзельнікі масавай акцыі плануюць выйсці на дарогу,* – працягвае Славамір Цыбульскі. – *У астатніх выпадках дзейнічае паведамляльны парадак. За тры дні досыць проста паведаміць мясцовым уладам, што, дзе і калі будзе адбывацца".*

Ва Украіне, якая разам з Польшчай прымае чэмпіянат Еўропы па футболе, заканадаўства аб масавых мерапрыемствах яшчэ больш ліберальнае. Дакладней, яго… амаль не існуе! Таму дэпутаты Рады рыхтуюць закон пад рабочай назвай "Аб свабодзе(!) мірных сходаў". У Расіі гэта федэральны закон "Аб сходах, мітынгах, дэманстрацыях, шэсцях і пікетаваннях", у Беларусі – "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь".

*"Пакуль што ва Украіне масавыя вулічныя мерапрыемствы рэгламентуюцца толькі артыкулам Канстытуцыі, які кажа пра свабоду сходаў,* – распавядае ўкраінскі праваабаронца **Міхаіл Каменеў**, які ўваходзіць у парламенцкую групу па распрацоўцы закона. – *З аднаго боку, гэта вельмі добра, бо арганізатарам мерапрыемстваў гарантавана свабода і, умоўна кажучы, "куча ўсялякіх плюшак". З іншага боку, часам прымяненне гэтага права проста агіднае. Гаворка пра канкрэтныя дзеянні праваахоўнікаў падчас масавых сходаў".*

**ПАВЕЛ СВЯРДЛОЎ**

# Д. МАРПЛЗ: ЛУКАШЭНКА БУДУЕ НАЦЫЮ НА МІФЕ ПРА ВАЙНУ

**Адзін з лепшых знаўцаў Беларусі на Захадзе — прафесар гістарычнага факультэта Універсітэта Альберты (Эдмантан, Канада) Дэвід Марплз (David R. Marples) завяршае работу над кнігай пра гістарычную памяць аб Другой сусветнай вайне ў Беларусі.**




*Толькі не ў ногу з НАТА…*

Пра "ваенную" свядомасць беларускага грамадства, нацыябудаўнічы працэс і палітыку Захаду ў адносінах да рэжыму Лукашэнкі навуковец распавёў у Лондане. На сустрэчы Англа-беларускага таварыства пабываў карэспандэнт **"Тут і цяпер"**.

## ЯК ПРАФЕСАРА НЕ ПУСЦІЛІ Ў БЕЛАРУСЬ

Канадскі гісторык і палітолаг Дэвід Марплз даўно вядомы на Захадзе як адзін з найлепшых экспертаў па гісторыі і палітыцы ў Беларусі, Расіі і Украіне. *"У Беларусь я ўпершыню трапіў у 1992 годзе і з таго часу наведваў вашу краіну кожны год"*, — распавёў даследчык карэспандэнту "ТіЦ".

Аднак у красавіку гэтага года Марплзу адмовілі ў выдачы беларускай візы. "Першы раз я падаваў дакументы ў консулят Беларусі ў Канадзе, а не ў ЗША. Адказ атрымаў наступны: "Вам было адмоўлена ва ўездзе ў Рэспубліку Беларусь. З найлепшымі пажаданнямі, Ігар".

Такім чынам, канадзец папоўніў спіс замежнікаў, якім забаронены ўезд у Беларусь. Прычым у адрозненне ад публічнага "чорнага спісу" Еўразвяза ўлады Беларусі робяць усё цішком і пакрыёма. Сам Марплз дапускае, што ў цяперашніх палітычных варунках службоўцы амбасады проста пабаяліся выдаваць візу чалавеку, які можа "прынесці праблемы".

Дэвід Марплз ёсць навукоўцам міжнароднага ўзроўню. Ён прысвяціў Беларусі тры аўтарскія кнігі: «Belarus: From Soviet Rule to Nuclear Catastrophe» (1996), «Belarus: A Denationalized Nation» (1999), «The Lukashenka Phenomenon: Elections, Propaganda, and the Foundations of Political Authority in Belarus» (2007). Летась канадскага прафесара абралі старшынёй Паўночнаамерыканскай асацыяцыі беларусазнаўчых даследаванняў.

## ВАЙНА ЛУКАШЭНКІ

Апошнія тры гады Дэвід Марплз працуе над даследаваннем "Гістарычная памяць і Другая сусветная вайна" ў Беларусі. Іншымі словамі, гісторык вывучае, як дзяржаўны кантроль над гістарычнай памяццю ў Беларусі ўплывае на фарміраванне нацыі.

Збіраючы матэрыял, канадскі навуковец шмат ездзіў па Беларусі, сустракаўся з людзьмі, вывучаў беларускія друкаваныя крыніцы. З каталогаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ён даведаўся, што з 2005 па 2010 год у Беларусі выдадзена 1500 назваў кніг на ваенную тэматыку. *"Гэта велізарная лічба"*, — кажа даследчык.

Гісторык адзначае, што ў краінах Балтыі і ва Украіне набірае моц антысавецкі сантымент, выкрываюцца злачынствы савецкай улады і адбываецца герaізацыя тых, хто супрацьстаяў Саветам. У Беларусі адзначаецца абсалютна супрацьлеглая тэндэнцыя. *"Вялікая Айчынная вайна" ёсць вызначальным элементам гістарычнай памяці і асновай для фарміравання сучаснай калектыўнай ідэнтычнасці ў Беларусі"*, — сведчыць Марплз.

*"Лукашэнка спрабуе пабудаваць нацыю вакол тэзы аб Вялікай Перамозе, якая нібыта дала беларусам волю і незалежнасць. Прычым нацыя выбудоўваецца на аснове палітычных, а не этнічных прынцыпаў. Гістарычны досвед (галоўным чынам, Вялікага Княства Літоўскага) і нацыянальныя каштоўнасці на чале з беларускай мовай ігнаруюцца. Затое адбываецца паслядоўная рэанімацыя сталінізму"*.

Па словах даследчыка, нават цяперашняе кіраўніцтва Расіі асудзіла сталінскія рэпрэсіі і ўшанавала памяць іх ахвяр. Лукашэнка за 18 год свайго кіравання не зрабіў нічога падобнага. Наадварот, трагічнымі падзеямі 1941–1944 гадоў улады імкнуцца замясціць у грамадскай свядомасці жахлівыя злачынствы таталітарнай сістэмы. Мемарыялы і помнікі савецкім героям, кінапрадукцыя, перанос Дня незалежнасці, перапісванне школьных падручнікаў закліканы ўмацаваць прапаганду, якая па змесце вельмі блізкая да савецкай. Больш за тое, адзначае Марплз, улады выкарыстоўваюць ваенную тэматыку ў якасці зброі ў барацьбе з палітычнымі апанентамі (Лукашэнка называе апазіцыянераў "калабарантамі" і "ворагамі народа") і сродку для пазіцыянавання геапалітычных інтарэсаў ("братняя Расія", варожы вобраз Захаду і НАТА).

Дэвід Марплз перакананы, што натуральны сыход ветэранаў не паўплывае на панаванне ваеннай тэмы ў калектыўнай свядомасці беларусаў. *"Вялікабрытанія і Канада перажываюць зараз чарговую хвалю папулярнасці асобы Чэрчыля сярод моладзі. Таму да таго часу, пакуль у Беларусі будзе панаваць рэжым Лукашэнкі, савецкі ваенны міф будзе жыць"*, — кажа прафесар і адзначае пры гэтым, што большасць беларусаў не лічаць, што гісторыя краіны пачалася ў 1944 годзе. *"Аднак многія па-ранейшаму не ведаюць, хто яны ёсць. Патрэбен будзе час, каб укараніць у грамадскай свядомасці новы міф, заснаваны на нацыянальных каштоўнасцях"*.

## БЕЛАРУСЬ БЕЗ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ?

У самай вядомай сваёй кнізе пра Беларусь "Дэнацыяналізаваная нацыя", назва якой на Захадзе стала намінальным імем, Марплз напісаў: *"Для Беларусі нацыянальнае развіццё без роднай мовы, асабліва ў цені шмат большых славянскіх суседзяў*


*Фашысты не прайшлі, але мы іх усё чакаем*

*з працяглымі гістарычнымі імперскімі традыцыямі, было фактычна немагчыма"*. Ці ёсць будучыня ў незалежнай Беларусі без беларускай мовы ў падмурку дзяржаўнай ідэалогіі?

*"Думаю, гэта магчыма. Перадусім, на грунце грамадзянскім, палітычным"*, — лічыць Марплз. — *Больш за тое, я перакананы, што імкненне нацыянальных сіл на пачатку 1990-х паставіць беларускую мову наперадзе працэсу дэмакратызацыі было заўчасным. Нават той факт, што беларусізацыя навучальных установаў пачалася пры адсутнасці ўсіх неабходных метадычных матэрыялаў, не спрыяў яе папулярызацыі сярод насельніцтва. Як вынік, Зянон Пазняк застаецца ў народнай свядомасці радыкалам і носьбітам пагрозы для рускамоўных"*.

Разам з тым гісторык перакананы, што падстаў "хаваць" беларускую мову няма. *"Я ўражаны колькасцю беларусаў, якія карыстаюцца ёю ў інтэрнэце, сацыяльных сетках. Гэта ўсё маладое пакаленне 1990-х"*. Аднак для паляпшэння статусу і папулярнасці беларускай мовы ў краіне неабходны палітычныя ўмовы. *"Кожны канадзец ведае, што зрабіць кар'еру ва ўрадавых структурах можна толькі пры ўмове ведання дзвюх моў — ангельскай і французскай. Беларускія бацькі таксама павінны ведаць, што беларуская мова, якую іх дзеці вывучаюць у школе, будзе патрэбна ім ва ўніверсітэце і для далейшай кар'еры"*.

## ПРА ШКОДНАСЦЬ САНКЦЫЙ І КАРЫСЦЬ ХАКЕЙНАГА ЧЭМПІЯНАТУ

Па словах Марплза, у апошнія гады цікавасць да Беларусі на Захадзе значна вырасла. Прычым даследчыкі і эксперты прадстаўляюць даволі шырокі спектр меркаванняў: ад палітыкі жорсткіх санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі, яго ізаляцыі, да максімальна магчымага дыялога з афіцыйным Мінскам.

Сам Марплз лічыць, што "санкцыйная" стратэгія Захаду ў дачыненні да Беларусі шкодная, бо ізалюе беларускае грамадства і штурхае краіну ў абдымкі Расіі.

Былы амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Браян Бенэт запярэчыў: *"Гэта не мы ізалюем Беларусь, а Лукашэнка. Ён хоча атрымліваць выгоды і адначасова трымацца на дыстанцыі і ад Захаду, і ад Расіі"*. *"Так,* — парыраваў Марплз, — *але існуе шмат розных пластоў беларускага грамадства, з якімі мы мусім размаўляць і якім можна дапамагаць. Апошнія даследаванні НІСЭПД сведчаць аб зніжэнні праеўрапейскіх і рост прарасійскіх настрояў у грамадстве, бо беларусы не бачаць канкрэтнай дапамогі ад Еўропы"*.

Апроч таго, канадскі беларусіст скептычна выказаўся наконт кампаніі па пераносе з Беларусі хакейнага чэмпіянату свету-2014. *"Я чакаю, калі тысячы замежнікаў запаланяць напаўпусты мінскі аэрапорт. Ніколі не забудуся, як колькі год назад перад гульнёй футбольных зборных Мінск напоўніўся шатландскімі фанатамі ў кілтах. Гэта была сапраўдная падзея! Чым больш будзе кантактаў, абмену інфармацыяй, досведам, тым больш шанцаў наблізіць Беларусь да цывілізаванага свету"*, — адзначыў даследчык.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**

# ПРАСТЫТУЦЫЯ І ВОЛЬНАЕ МЫСЛЕННЕ

### Актывістка руху Іна Шаўчэнка распавяла аб тым, хто ладзіць акцыі супраць FEMEN і ці будуць дзяўчаты атакаваць расійскіх заўзятараў, паведамляе euroradio.fm.

*11 чэрвеня польскія прастытуткі ў адказ на акцыю Фэмэн супраць прастытуцыі зладзілі акцыю за свае правы займацца ёю.*

**– Як вы ацэньваеце акцыю ў Польшчы ў падтрымку прастытуцыі? Ці лічыце, што яна была здзейснена вам на злосць?**

– Мы як грамадскія дзеячы заўсёды рады кожнай праяве жаночай актыўнасці. Мы рады бачыць, калі жанчыны выказваюць свае погляды праз пратэсты, але ў гэтым выпадку такі акт наўрад ці можна ўспрымаць як праяву жаночага пункта гледжання. Прастытуцыя і вольнае мысленне ніяк не звязаны паміж сабой, бо прастытуцыя — гэта бізнес не прастытутак, а мужчынсутэнёраў, сэкс-босаў. Таму мы, вядома, разумеем, што гэтая акцыя была здзейснена пад кіраўніцтвам сутэнёраў, якія выкарыстоўваюць сэкснявольніц нават дзеля таго, каб яны пратэставалі супраць FEMEN. Шчыра вам скажу: мы рады нават таму, што такі акт быў здзейснены, бо гэта пацвярджае, што дзейнасць FEMEN палохае сэкс-індустрыю, сутэнёраў і прастытутак.

**– У польскім фондзе La strada па дапамозе жанчынам, якіх прыцягнулі да прастытуцыі, нам паведамілі, спасылаючыся на досвед гаспадароў першынства Еўропы па футболе 2008 года — Аўстрыі і Швейцарыі, што колькасць прастытутак падчас такога кшталту мерапрыемстваў не павялічваецца.Чаму вы лічыце, што Еўра-2012 прывядзе да актывізацыі прастытуцыі?**

– Кожнае спартовае мерапрыемства, на якое прыязджаюць фанаты-мужчыны, спрыяе развіццю сэкс-індустрыі, бо арганізатары такіх фестываляў зацікаўлены ў атрыманні грошай. І вядома, што яны прапаноўваюць мужчынам: піва, футбол і сэкс. І тут ахвярай заўсёды становяцца жанчыны. Пра гэта кажа гісторыя. У Нямеччыне была легалізавана прастытуцыя акурат перад чэмпіянатам свету ў 2006 годзе. Нядаўна я вярнулася з Гамбурга, дзе зніякавела ад таго, што робіцца на вуліцах развітой Нямеччыны: кожныя 10 метраў стаяць сэкс-нявольніцы, якія прадаюць сябе за 20 еўра ў гадзіну, працуюць кругласутачна, аказваючы сэксуальныя паслугі мужчынам. Жах бачыць такую з'яву ў XXI стагоддзі ў такіх развітых краінах, як Нямеччына.

**– А што сёння адбываецца ва Украіне ў сувязі з Еўра-2012?**

– Ва Украіне сэкс-босы павысілі кошты ўдвая. Жанчына — гэта толькі інструмент для іх, каб зарабіць грошай. Цяпер на цэнтральных вуліцах Кіева больш бардэляў, чым аптэк і харчовых крам. Украіна ператварылася ў вялізны бардэль, і гэта заслуга арганізатараў Еўра-2012 — UEFA і ўкраінскай улады, якая патурае ўсім патрабаванням UEFA.

**– У Варшаве плануецца "чырвоны марш" расійскіх заўзятараў. Ці будзеце вы нейкім чынам пратэставаць супраць гэтага?**

– Мы не будзем атакаваць асобныя акцыі і маршы фанатаў. Мы маем намер атакаваць саму арганізацыю Еўра-2012 і тыя акцыі, дзе будуць прысутнічаць арганізатары-сутэнёры. Арганізатары Еўра-2012 з'яўляюцца сутэнёрамі, якія ператвараюць нашую краіну ў бардэль. На такіх мерапрыемствах вы можаце чакаць дыверсіі FEMEN.

**ВОЛЬГА МІЦКЕВІЧ**

# НЕ БОЙСЯ ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

У мяне ёсць некалькі сяброў-беларусаў, якія даволі добра валодаюць беларускай мовай, але па-ранейшаму гавораць па-руску. Яны ўсе выдатна ведаюць, што гэта няправільна, але нічога не робяць. Я пацікавілася, чаму. Быццам бы галоўная прычына ў меркаванай «адсутнасці беларускага асяроддзя».

Аднойчы я заўважыла, як мой рускамоўны сябра Валерый размаўляе з нашым агульным беларускамоўным сябрам Антосем. Ён выдатна размаўляў па-беларуску. Я ў яго запыталася: «Чаму ты з Антосем размаўляеш па-беларуску, а з іншымі — па-руску?»

Яго адказ мяне здзівіў: «Калі са мной хтосьці гаворыць на беларускай мове, дык я яму адказваю таксама па-беларуску. А калі на рускай, то я таксама па-руску». Вось логіка!

Я задала сябру наступнае пытанне: «Валерый, а ці задумваўся ты калі-небудзь пра тое, што калі ТЫ будзеш размаўляць па-беларуску, то многія будуць ТАБЕ адказваць па-беларуску?"

Мой сябра заціх у здзіўленні. Відавочна, пра такое ён ніколі не думаў.

Дарагія беларусы, адно можна сказаць з упэўненасцю: беларускае асяроддзе не будзе ствараць ніхто іншы, акрамя вас саміх!

Кожны з вас можа пачаць яго ствараць вакол сябе.

Пачніце з сябе, і вы ўбачыце, што тых, хто прыме гэты выклік, будзе больш, чым вы мяркуеце.

Дарэчы, Валерый сёння карыстаецца беларускай мовай нашмат больш, чым раней.

З ахвотай да добрай дзейнасці! Зычу вам поспехаў.

**P. S.** 1: Лічыце, што мне, як іншаземцы, у гэтым прасцей? Так, з аднаго боку, гэта праўда. Мае сябры адчуваюць сорам, што яны не карыстаюцца мовай продкаў, калі нават чэшка здолела яе вывучыць. Я не маю правільнага акцэнту, часам не там стаўлю націск… Але гэта мяне не спыняе!

Беларускамоўная, аднак «чыстапародная» чэшка

**СВЯТЛАНА ВРАНАВА**






**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 14.06.12
Тыраж 299 экзэмпляраў